

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№7 (171) КРАСАВІК 2014 ГОД


РЫНАК ПРАЦЫ

## НЕ ХАПАЕ ПРАДСТАЎНІКОЎ РАБОЧЫХ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЕЙ

**На рынку працы Шумілінскага раёна па-ранейшаму запатрабаваны работнікі сельскай гаспадаркі, гандляры, механікі, токары, таксама лекары, педагогі, бухгалтары, нават адзін ідэолаг. Толькі заробкі ў асноўным нізкія: ў межах ад двух да трох мільёнаў рублёў.**

Для падтрымання ўстойлівага эканамічнага росту на Шуміліншчыне неабходна забяспечыць гаспадарку дастатковай колькасцю працоўных рэсурсаў. Аднак тэндэнцыяй на рынку працы раёна стаў ўстойлівы дэфіцыт працоўнай сілы. Не хапае працаўнікоў рабочых спецыяльнасцей у галінах, такіх як сельская гаспадарка і прамысловасць.

Назіраецца таксама дэфіцыт работнікаў культуры, адукацыі і аховы здароўя. Гэтаму паспрыялі многія фактары, у тым ліку перавышэнне знешняй эміграцыі над іміграцыяй, зніжэнне колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва, перавышэнне смяротнасці над нараджальнасцю, зніжэнне ўзроўню прадукцыйнасці працы і інш. Да прыкладу, колькасць насельніцтва, занятага ў эканоміцы Шуміліншчыне упала з 8 821 чалавек у перыяд са студзеня 2013 года да 8 587 чалавек на студзень 2014 года.

Па стану на 11 красавіка ў базе даных вакансій Міністэрства па працы і сацыяльнай абароне па Шумілінскаму раёну прапануецца 82 вакансіі на 116 працоўных месцаў. Амаль палова гэтых месцаў –42 – прапануецца ў сельгаспрадпрыемствах: "Райаграсервіс" – 12 свабодных вакансій, КУСГП "Сіроцінскі" – 14, ААТ "Прыазёрны мір" – 3, саўгас "Ульскі" – 7, ААТ "Прыдзвінскі" – 8, ААТ "Лаўжанскае" – 6, ААТ "Ляжні" – 2. Прычым з вышэйшай адукацыяй патрабуецца 36 спецыялістаў, агульнай базавай – 28, сярэднеспецыяльнай – 12, агульнай сярэдняй – 6.

Больш за ўсіх вакансій маецца на Обальскім керамічным заводзе – 16 работнікаў, дзе найперш патрэбны тры вадзіцелі аўтамабіля (заробак у месяц – 2,7 млн. руб), старшы майстар машыніст бульдозера – 2,8 млн. руб., машыніст экскаватара – 2,8 млн. руб., электрык – 2,7 млн. руб., механік – 2,8 млн. руб., зваршчык – 2,7 млн. руб.

Па-ранейшаму не хапае высокакваліфікаваных спецыялістаў у галіне жывёлагадоўлі. Так, у сельгаспадарку "Лаўжанскае" запрашаюць ветэрынарнага лекара з акладам у 3 млн. рублёў, у саўгас Ульскі – галоўнага ветэрынарнага лекара з пастаянным заробкам 3 млн. рублёў у месяц. Чакаюць ў гэтым саўгасе і кандыдата на пасаду намесніка кіраўніка арганізацы па ідэалагічнай рабоце ( 3 млн. руб ). У "Сіроцінскім" і "Райаграсервісе" таксама патрабуюцца ветэрынары з акладам адпаведна ў 2,5 млн. руб. і 2,9 млн. руб., заатэхнік – 2,5 млн. руб.

З'явіліся ў базе даных вакансіі і лекараў для Шумілінскай райбальніцы. Тут для спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй прапануюцца наступная праца: правізар 2,7 млн. руб, тры лекары – 3 млн. руб. Адзін фельчар – 2 млн руб. і адна санітарка – 1,7 млн руб.

Зусіхвідаўвакансійсамывысокізаробак прапануюць галоўнаму бухгалтару ў Шумілінскім аддзеле адукацыі – 4,1 млн. руб, самы нізкі – прыёмшчыкам заказаў ў райбыткамбінаце 1,66 млн. руб. Дарэчы, апошнім прадпрыемстве не хапае 11 работнікаў. Гэта вадзіцелі, сталяры, цырульнікі, краўцы, майстры па рамонту абутку, якім таксама абяцаюць сціплыя заробкі.

Варта нагадаць, што апошні сярэдні афіцыйны заробак па Шумілінскаму раёну за студзень месяц склаў 3,589 тыс. руб або 75,6% ад абласнога ўзроўня. У сваю чаргу сярэдні заробак па Віцебскай вобласці склаў у студзені 4,749 тыс. руб. або 89,2% ад сярэднерэспубліканскага ўзроўня у 5,322 млн. рублёў за студзень гэтага году.

**Алесь Шумскі**

*ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ОБАЛЬШЧЫНА – ЗАКІНУТЫ КРАЙ?

**Днямі ў раёне прайшлі падворныя абходы сацыяльных і вытворчых аб'ектаў, у якіх прынялі ўдзел кіраўнікі і адказныя асобы. На падвядзенні вынікаў мерапрыемстваў старшыня Шумілінскага райвыканкама Уладзімір Куранны быў уражаны бязладдзем на месцах і літаральна назваў Обальшчыну "закінутым краем".**

Пытанне навядзення парадку на зямлі па-ранейшаму не губляе сваёй актуальнасці.

Так, кіраўнік раёна звярнуў увагу на шматлікія недахопы і недапрацоўкі ў рабоце мясцовай улады і зацікаўленых службаў у гарадскім пасёлку Обаль. А гэта нішто іншае, як разбітыя дарогі, аблезлыя фасады гандлёвага цэнтра, адсутнасць бардзюраў, затопленыя пасля дажджоў ходнікі і абочыны вуліц.

Як правіла, асноўныя праблемы, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, датычацца жыллёва-камунальнай сферы. Пры гэтым, яны амаль усюды тыповыя. І гарадскі пасёлак Обаль – не выключэнне. Кіраўніцтва раёна неаднаразова ўжо давала даручэнні розным начальнікам адпаведных службаў, апроч таго, былі ўстаноўлены канкрэтныя тэрміны іх выканання. Аднак тэрміны мінулі, а воз і цяпер там. Гарачаявадаўшэрагкватэрнепаступае, падвалы і падыходы да некаторых дамоў затоплены. Пры ўсім тым, што ў пасёлку запланавана будаўніцтва яшчэ аднаго шматкватэрнага дома і таму патрабуецца новая пляцоўка для мясцовага рынка.

Само сабой, што адпаведна жыхароў пасёлка хвалюе лёс асноўнага прадпрыемства – Обальскага керамічнага завода. Цяпер абальчан парадавалі добрай навінай: на мадэрнізацыю завода было выдзелена 42 мільярды рублёў з інавацыйнага фонду абласнога выканаўчага камітэта. Праўда, для правядзення поўнай планавай мадэрнізацыі было патрэбна 68 мільярдаў рублёў. Пакуль шукалі грошы на аднаўленне прадпрыемства, колькасць рабочых месцаў скарацілася: летась у красавіку працавала 436 чалавек, а сёлета ўжо – 395.

Не надалі аптымізму і стан сацыльна-вытворчых аб'ектаў у Дабейскім сельсавеце, дзе пабывала рабочая група райвыканкама на чале з Уладзімірам Куранным. Як высветлілася, адным навядзеннем парадку на падведамаснай тэрыторыі праблемы насельніцтва не вырашыць. На сяле востра патрабуюцца рабочыя месцы, дзе людзі маглі добра зарабляць на годнае жыццё. Але адкуль ім узяцца, калі большасць вытворчых аб'ектаў прыйшлі ў занапад і пабудаваныя яшчэ ў 70 гады мінулага стагоддзя? Да прыкладу, малочна-таварны комплекс, што ў Дабеі, уяўляе сабой, шчыра кажучы вартае жалю відовішча. Мясцовы старшыня гаспадаркі "Прыазёрны мір" даводзіў, што рамонт аб'екта праводзяць ўласнымі сіламі, праўда з падтрымкай раённых арганізацый: ад фермы вывозіцца гной, а парадак на прылеглай тэрыторыі наводзяць мясцовыя работнікі. Тут наогул нядаўна стаў працаваць малады, энергічны кіраўнік Аляксандр Пытко, які лічыць, што пасля рамонту можна размясціць маладняк гусей для гадоўлі. Такім чынам гэтая новая для нас галіна жывёлагадоўлі дазволіць гаспадарцы выйсці на прыбытковую работу. Пад гусіную ферму на две тысячы птушак вядзецца пераабсталяванне яшчэ аднаго памяшкання – на ферме Непароты.

Як бы там ні было, але кіраўніцтва раёна па старой завядзенцы савецкіх часоў спрабуе пазбавіцца ад недахопаў гэтак званымі камандна-адміністратывўнымі метадамі. Аднак заўважана, што і самі жыхары належнай цікавасці ў паляпшэнні жыццёвага ўроўню пасёлкаў і вёсак таксама не праяўляюць.

**Алесь Шумскі**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

## ПАДАТКОВАЯ ІНСПЕКЦЫЯ КАНФІСКАВАЛА РЫТУАЛЬНЫЯ ТАВАРЫ

**Пры правядзенні праверкі з кантрольнай закупкай у пункце прыёму заказаў прыватнага прадпрыемства ў Шуміліне, мясцовай інспекцыяй па налогам и зборам усталяваны факт рэалізацыі рытуальных тавараў без адпаведных дакументаў.**

На момант заканчэння праверкі патрэбныя дакументы, якія пацвярджаюць продаж тавараў для рэалізацыі 244 рытуальных прылад на агульную суму 5.700.000 рублёў прадстаўлены не былі. Менавіта таму тавары, якія рэалізуюцца ў парушэнне дзеючага заканадаўства, былі канфіскаваныя. А ў дачыненні да вінаватых асоб складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Матэрыялы праверкі накіраваны ў суд для разгляду і прыняцця рашэння ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Акрамя таго, паведамляе прэс-служба інспекцыі МПЗ па Віцебскай вобласці, пры правядзенні праверкі ў краме, што належыць гэтаму ж прадпрыемству і размешчанага ў Віцебску, устаноўлена парушэнне парадку прыёму грашовых сродкаў пры рэалізацыі тавараў за наяўны разлік. Прычым да моманту адкрыцця крамы ( з 27 сакавіка, калі праводзілася праверка) тут адсутнічаў аплатны тэрмінал для ажыццяўлення разлікаў з выкарыстаннем плацежных банкаўскіх картак. За дадзеныя парушэнні прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з артыкулам 12.18. КоАП.

**Сяржук Горкі**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ПАКАРАНЫ ЗА ЗАТРЫМКУ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ

**У першым квартале 2014 года за парушэнні тэрмінаў выплаты заработнай платы ў Віцебскай вобласці да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 179 юрыдычных асоб і 172 службовыя асобы.**

Як паведаміла прэс-служба КДК, Дзяржаўны кантроль і нагляд за своечасовасцю выплаты зарплаты, адказнасць наймальнікаў за парушэнне ўмоў калектыўнага дагавора, пагадненняў па аплаце працы ўваходзіць у сістэму дзяржаўных гарантый па аплаце працы работнікаў. Патрабаванні па забеспячэнні выплаты заработнай платы ў тэрміны, вызначаныя калектыўнымі дамовамі арганізацый, замацаваныя ў Працоўным кодэксе Рэспублікі Беларусь, а таксама Дэкрэтам кіраўніка дзяржавы «Аб дадатковых мерах па ўдасканаленні працоўных адносін, умацаванні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны» ад 26.07.1999 № 29.

Службовая асоба, якая не забяспечыла своечасовую выплату заработнай платы, за парушэнне ўстаноўленых тэрмінаў прыцягваецца да адміністрацыйнага штрафу ў памеры ад 4 да 20 базавых велічынь, юрыдычная асоба – да 100 базавых велічынь. Акрамя таго, арганізацыі, якія маюць пратэрмінаваную запазычанасць па зарплаце, абавязаны падаваць адпаведную дзяржаўную статыстычную справаздачу.

КДК Віцебскай вобласці пастаянна трымае на кантролі своечасовасць выплаты зарплаты пры правядзенні праверак і маніторынгаў. Для гэтага выкарыстоўваюцца метады аддаленага фінансавага кантролю, а таксама аналізуюцца звароты, якія паступаюць на штодзённую тэлефонную «гарачую лінію». У выніку ўсталёўваюцца факты несвоечасовай выплаты заработнай платы. Больш за тое, асобнымі арганізацыямі хаваюцца выпадкі пратэрмінаванай запазычанасці па аплаце працы.

Так, у лютым-сакавіку г.г. выяўлена 14 арганізацый , якія ўцяклі ад органаў статыстыкі звесткі аб пратэрмінаванай запазычанасці па зарплаце і не давалі справаздачы аб яе наяўнасці.

Напрыклад, праведзеная ў сакавіку пазапланавая праверка Шаркаўшчынскай ПМК-68 (тут не была ў тэрмін выплачаны заробак за сьнежня 2013 і студзень 2014 г.) паказала, што неабходная справаздачнасць у органы статыстыкі накіравана не была. У цяперашні час праваахоўнымі органамі даецца ацэнка дзеянням службовых асоб прадпрыемства, а Камітэтам дзяржканторолю прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу кіраўнік прадпрыемства і само прадпрыемства .

Да астатніх парушальнікам заканадаўства аб працы і статыстыцы гэтак жа прымаюцца меры. Так, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты кіраўнікі праектнага інстытута Віцебскага ДСК, ААТ «Віцебскі світанак» і іншых арганізацый.

Па ўсіх выяўленых фактах адпраўлены патрабаванні па забеспячэнні пагашэння запазычанасці ў адрас кіраўнікоў арганізацый, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Адпаведная інфармацыя аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб, вінаватых у затрымках заработнай платы, накіраваная таксама ў Віцебскае абласное ўпраўленне Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы.

**Паводле region.ej.by**

ВАЛЕЙБОЛ

# НОВЫЯ ПЕРАМОГІ ШУМІЛІНСКІХ СПАРТОЎЦАЎ

**Валейбольная зборная нашага раёна на мінулым тыдні заваявала прызавое месца на спаборніцтвах ў Міёрах.**

У горадзе Міёры адбыліся спаборніцтвы па валейболу на кубак мясцовай ДзЮСШ, у якім прымалі ўдзел юныя валейбалісткі з Шуміліна, Верхнядзвінска, Міёраў, Наваполацка і Бешанковіч.

Шумілінская зборная (трэніруе Людміла Харкавец) ва ўпартай барацьбе перамагла каманду з Бешанковіч (2:1), аднак прайграла матч навапалачанкам (1:2). У выніку чаго нашы спартсменкі атрымалі магчымасць працягваць гульню. У сустрэчы з камандай Верхнядзвінска шумілінскія валейбалісткі зноў перамаглі з лікам 2:0. Лепш за ўсіх у нашай камандзе вызначыліся Кацярына Лемешава і Карына Пяткевіч.

На мінулым тыдні ў горадзе Маладзечна паспяхова выступіў обальскі барэц Уладзіслаў Грачухін . У чарговы раз Уладзіслаў перамог сваіх супернікаў у вагавой катэгорыі 76 кг на міжнародным турніры па грэка-рымскай барацьбе. Трэніруе барца Пётр Ганушчанка.

**Алесь Прыбярэжны**

# ШУМІЛІНСКІЯ ВАЛЕЙБАЛІСТКІ – У ЛІКУ МАЦНЕЙШЫХ!

**У рамках беларуска-расейскага турніра ў Міёрах праходзіў фінал спаборніцтваў па валейболу сярод жанчын. Шумілінская каманда вярнулася з перамогай.**

Перадусім нашы спартсменкі неаднаразова займалі прызавыя месцы на традыцыйных валейбольных турнірах Віцебскай вобласці. На гэты раз у Міёрах жаночая каманда Шуміліншчыны правяла матчы са спартсменкамі з Себежа (Расейская Федэрацыя), Верхнядзвінска, Паставаў і Віцебска.

Жаночай зборнай Шумілінскага раёна ў першай сустрэчы супрацьстаялі расейскія валейбалісткі. Пачатак першай партыі выдаўся напружаным – ніводная каманданне хацела саступаць. Аднак затым госці з Расеі вымушаны былі здаць пазіцыі больш вопытнай, фізічна падрыхтаванай на трэніроўках шумілінскай камандзе.

Высокі ўзровень майстэрства прадэманстравалі Рыта Бяззубенка, Антаніна Сямёнава, Людміла Харкавец, Вольга Далжанкова, Людміла Харкавец, Вольга Гаева, Інга Пракопчык і Наталля Філіпава. І вынік не заставіў сябе чакаць: сустрэча з расіянкамі закончылася на карысць нашых землячак.

Лёгка і без праблем шумілінскія валейбалісткі разабраліся з пастаўскім суперніцамі: матч скончыўся з разгромным лікам 25:3.

Выдатна праявілі сябе шумілінскія жанчыны ў фінальнай гульні з прадстаўніцамі валейбольнай камадны Міёраў. Нашы спартсменкі разумелі, якая адказнасць ляжыць на іх плячах, і таму змагаліся за перамогу з асаблівым запалам. Тым больш, што гаспадароў поля – валейбольную каманду міярчанак падтрымлівалі балельшчыкі.

У першай партыі, аднак, нашы валейбалісткі не змаглі перадужаць сябе і перамога засталася за гаспадарамі. Але далей у другой партыі гульня заладзілася: шумілінская каманда мабілізавалася, паказала прыгожую, цікавую гульню і выйграла партыю.

Запершаемесца валейбольная каманда шумілінскіх жанчын ўзнагароджана кубкам спаборніцтвам у Міёрах. За тое, што адстаялі гонар Шуміліншчыны, жадаем нашым спартсменкам удачы, выдатнай гульні і новых перамог!

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# МАЁМАСЦЬ ЗНІКЛА З ЛЕЦІШЧА

**У вёсцы Добрына абакралі дачны дом, які належыў песіянеру-жыхару горада Віцебска.**

19 красавіка ў Шумілінскі РАУС звярнуўся пенсіянер 1953 года нараджэння, жыхар Віцебска. Мужчына паведаміў, што ў ноч на 19 красавіка неўсталяваны злачынца трапіў у яго дачны дом, размешчаны ў вёсцы Добрына. З дому прапалі пластыкавыя вёдры, кухонныя прылады, дзесяць метраў антэннага кабеля.

Нанесена шкода на суму 1,3 млн. рублёў. Супрацоўнікамі міліцыі папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў непрацуючы мясцовы жыхар 1988 года нараджэння. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 205 Крымінальнага Кодэкса.

**Сяржук Горкі**
**па матэрыялах УУС**

# НЕЗАКОННЫ ГРУЗ

**У Шуміліне затрыманы аўтамашына, на якой жыхар Віцебска нелегальна перавозіў тавар.**

14 красавіка ў 15 гадзін у раёне гарпасёлка Шуміліна супрацоўнікамі міліцыі і дарожна-патрульнай службы была аўтамашына "Мэрсэдэс-Бенц Віта" пад кіраваннем жыхара Віцебска 1992 нараджэння.

Як высветлілася, мужчына перавозіў без адпаведных дакументаў сістэмы ачысткі вады на суму 22 млн. рублёў. На яго складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па ч. 4 арт. 12.17 КаАП РБ. Груз канфіскаваны.

**Сяржук Горкі**
**па матэрыялах УУС**

КАМАНДЗІРОЎКА...

# В ПОГОНЕ ЗА ЧИНОВНИКОМ

**Лукашенко приказал генпрокурору отправить Косинца в Прибалтику ловить бывшего зампреда горисполкома Меркушева. В своем послании народу и Национальному собранию Беларуси Александр Лукашенко коснулся и Витебской области: он рассказал о сбежавшем в Прибалтику бывшем депутате, чиновнике и директоре «БелВитунифарма» Олеге Меркушеве.**

В своей обычной резкой манере руководитель государства приказал генеральному прокурору отправить Александра Косинца (которого назвал революционным губернатором) и всех причастных к назначениям Меркушева в Прибалтику за беглецом, чтобы на родине с ним могли разобраться:

«Можно привести еще один показательный пример с выдвижением Меркушева на должность главы администрации Октябрьского района Витебска в декабре 2011 г.

Кстати, для справки, если кто–то забыл: Витебскую область у нас возглавляет революционный губернатор, который ведет страшную борьбу с коррупцией.

Работая директором в Открытом акционерном обществе «БелВитунифарм», он (Меркушев. — Прим. ред.) не справился с реализацией инвестиционного проекта по выпуску импортозамещающих лекарств. Тем не менее, его назначают первым заместителем председателя Витебского горисполкома. То есть оттуда выгнали — перевели на должность неплохую.

Однако и там он все провалил. Но даже после этого его кандидатура предлагалась на должность главы администрации Октябрьского района Витебска, хотя и была отклонена. Впоследствии в апреле 2013 года он вновь назначается, кем бы вы думали, директором ОАО «БелВитунифарм». Понимаете, откуда ушел — туда и пришел. При этом установил себе этот деятель оклад в 20 миллионов рублей, ввел должности трех заместителей, чтобы нормально было жить, выезжал с семьей в так называемую «служебную командировку» аж в Иорданию. Чему там учился, не знаю! Довел предприятие до банкротства и сбежал в Прибалтику.

Так вот, я хочу предупредить Генерального прокурора: туда отправьте губернатора и всех, кто его назначал, пусть его оттуда привезут домой, для того чтобы мы могли с ним разобраться»,— заявил Александр Лукашенко.

Напомним, что в 2012 году был осужден бывший заместитель председателя Витебского облисполкома Леонид Ковалев, которого обвиняли в получении взятки.

**Сяржук Серабро**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

БЕЛАРУСКАЯ МАДЭЛЬ

# НОВЫ ЭТАП - ЭКАНАМІЧНЫ БАРДАК

**Пакуль кіраўнік дзяржавы кідаецца па краіне з мэтай выкаранення «бардака» на дзяржпрадпрыемствах, працэс дэіндустрыялізацыі беларускай эканомікі набірае абароты.**

11 красавіка Аляксандр Лукашэнка выявіў на тэрыторыі льнозавода ў Слуцку бруд і вялізныя кучы сыравіны. Канстатаваўшы «поўны бардак» і адсутнасць гаспадара, ён пераехаў на другое праблемнае прадпрыемства горада - Слуцкі мясакамбінат, дзе , як паведамілі афіцыйныя крыніцы, «звярнуў увагу на адсутнасць належнага парадку і непрыстойныя ўмовы». Зазірнуў кіраўнік дзяржавы і ў халадзільныя памяшканні.

Іх візуальны агляд, сумешчаны з аналізам паветранага асяроддзя («Тут жа дыхаць няма чым!"), Скончыўся распараджэннем распачаць крымінальную справу і разабрацца па ўсіх пытаннях. Гэта было ўжо другое распараджэнне такога роду за дзень. Першае старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Якабсон атрымаў яшчэ на ільнозаводзе.

Але адміністрацыйнай мяжой Слуцка спецаперацыя па навядзенні «належнага парадку» не абмяжуецца. Лукашэнка даў указанне: «Неадкладна удакладніце па краіне, ці ёсць такі бардак на нейкіх прадпрыемствах».

Улічваючы, што нават у асобна ўзятым Слуцку бардак ня стаўся адзінкавым, можна спрагназаваць , што шматлікім спецыялістам па ўліку бардака ў краіне беспрацоўе не пагражае.

**Добра працуюць там, дзе не перашкаджае дзяржава**

22 сакавіку 2002 года на семінары кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў Лукашэнка выступіў з дакладам, прысвечаным «беларускай мадэлі эканамічнага развіцця". Абмяжуюся ключавой цытатай: «Так, «беларуская мадэль развіцця» або "беларускі шлях развіцця" аб'ектыўна існуе. Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і іншых сферах, - вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам. Мы не слухалі «дактароў» з Міжнароднага валютнага фонду, якія прапісваюць лекі, што больш небяспечныя за саму хваробы».

Прайшло 12 гадоў, але ні адно слова не страціла актуальнасці. На аператыўных нарадах у Палацы Незалежнасці, падчас працоўных паездак па краіне кіраўнік дзяржавы рэгулярна дэманструе, чаго ўдалося дасягнуць, жывучы сваім розумам. Слуцкія кучы сыравіны і водар гнілых туш з агульнай карціны «дасягненняў» не выпадаюць. Роўна як і фінансавыя вынікі піваварнай галіны Беларусі, якая, як адзначыў кіраўнік дзяржавы на нядаўняй нарадзе, "сёння не проста кульгае, а знішчаецца» (пры тым што яшчэ сем гадоў таму былі прыняты рашэнні аб буйнамаштабным тэхнічным перааснашчэнні піваварных заводаў і г.д.).

З агульнай карціны выпадаюць віды эканамічнай дзейнасці, мінімальным чынам звязаныя з дзяржавай.

У першую чаргу - Парк высокіх тэхналогій (ПВТ). На прэс - канферэнцыі ў сакавіку яго дырэктар Валерый Цапкала паведаміў, што па выніках 2013 агульны аб'ём выручкі ПВТ склаў 525 млн. даляраў. З пункту к гледжання ўкладу ў ВУП паказчыкі ПВТ, па словах Цапкала, сувымерныя з тымі, што давалі МАЗ, БелАЗ і МТЗ разам узятыя ў свае лепшыя гады.

З агульнай карціны выпадаюць і аператары мабільнай сувязі. Агульная колькасць абанентаў сотавай сувязі ў Беларусі на 1 студзень 2014 г склала, па дадзеных Мінсувязі, 11,1 млн.

Свой уклад у развіццё сотавай сувязі спрабавала ўнесці і дзяржава. Як тут не ўспомніць спробу РУП "Белтэлекам" і ДНВА «Агат» стварыць у 2004 годзе дзяржаўнага аператара сотавай сувязі «БеСТ». З фармальнага боку праблем не ўзнікла. Кампанію зарэгістравалі, выдалі ліцэнзію на аказанне паслуг сотавай сувязі, і да лета 2008 года яна давяла сваю долю на рынку да ... 2,5 %. Неўзабаве аўтсайдэр рынку быў прададзены турэцкай кампаніі Turkcell.

**Моцная ўлада бяссільная супраць законаў рынку**

Прыглядзімся да асаблівасцяў "беларускай мадэлі эканамічнага развіцця" з дапамогай аўтара - нязменнага прэзідэнта краіны.

Першая з іх, па яго думкі, - моцная і эфектыўная дзяржаўная ўлада. «Мы ж з самага пачатку, - растлумачыў Лукашэнка ўдзельнікам семінара ў далёкім ужо 2002 годзе, - ясна ўяўлялі, што дачаснае пашырэнне рынкавых адносін не дазволіць радыкальна вырашыць ні адну з існуючых самых вострых праблем. Затое створыць новыя, якія вынікаюць з спецыфікі рынку. Парушыцца грамадская згода, што прывядзе да канфліктаў і нестабільнасці. А бо палітычная стабільнасць - адна з галоўных умоў паступовай інтэграцыі ў сусветную эканоміку» .

Спрэчкі няма, стабільнасць у беларускім грамадстве падтрымліваецца, а вось з інтэграцыяй у сусветную эканоміку выйшла замінка. Як ні спрабаваў Захад «прымусіць быць такімі, як усе вакол нас, як яны, у рэшце рэшт», нічога ў яго не атрымалася. «Мы ім сёння як костка ў горле», - канстатаваў Лукашэнка ў пасланні народу і парламенту ў 2011 годзе.

Па сусьветных паняццях сучаснай дзяржавы - адміністрацыйная і падатковая. Яе актыўнасць абмяжоўваецца кіраўнічымі задачамі. Вытворчыя задачы перадаюцца праз аддзяленне ад яе рынку. Беларуская дзяржава застаецца дзяржавай вытворчай, аднак зацікавіць чым-небудзь сусветную эканоміку яна не ў стане.

Абмяжуюся адным прыкладам. Паводле інфармацыі начальніка ўпраўлення навукі і інавацыйнай палітыкі Міністэрства эканомікі Дзмітрыя Крупскага («Савецкая Беларусь» ад 7 сакавіка), усе беларускія дзяржаўныя прадпрыемствы выдаткавалі ў 2012 годзе на распрацоўку новай прадукцыі каля 80 млн. еўра, тады як адзін «Фольксваген» - 9,5 млрд. еўра (5% ад гадавога аб'ёму продажаў).

Пры такіх суадносінах любыя развагі пра "косткі ў горле" губляюць сэнс. Калійныя ўгнаенні, нафтапрадукты - вось і ўвесь набор канкурэнтаздольных тавараў, што вырабляюцца ў Беларусі.

**Дэіндустрыялізацыя набірае абароты**

Большасць беларусаў не працуюць, а служаць. Служаць дзяржаве і за сваё служэнне ўзнагароджваюцца па нормах, дзяржавай ж усталяваных. Па-за канкурэнцыяй тут сілавікі і чыноўнікі.

На долю дзяржсектара прыпадае каля 70% ВУП, на дзяржпрадпрыемствах працуе дзве траціны эканамічна актыўнага насельніцтва Беларусі.

Вера ў перавагі эканомікі, заснаванай на дзяржаўнай уласнасці, ўласцівая не толькі канструктару «беларускай мадэлі», але і мільёнам беларусаў.

У сакавіку 2014 года, па дадзеных НІСЭПД, больш эфектыўнай формай уласнасці дзяржаўную лічыла 38% беларусаў, прыватную - 51%. Але гэта ў тэорыі, на практыцы ж, пры адказе на пытанне «На якой прадпрыемстве вы хацелі б працаваць?» Такія перавагі сёння ўжо не фіксуюцца (гл. табліцу). Зразумець гэта нескладана, калі ўлічыць, што ўзровень падтрымкі дзяржсектара з боку бюджэту павінен скласці больш за 11 трлн. рублёў.

Пакуль кіраўнік дзяржавы даказвае перавагі ўласнай эканамічнай мадэлі, працэс дэіндустрыялізацыі ўпэўнена набірае абароты.

Не выключана, што гэты год будзе апошнім у гісторыі вытворчасці беларускіх тэлевізараў. У студзені-лютым 2014 іх вытворчасць адносна студзеня - лютага мінулага года склала 23,6 %. Пры гэтым на 9 прададзеных у Беларусі айчынных тэлевізараў прыйшоўся 91 імпартны!

Гэтак жа імкліва падае вытворчасць пральных машын. За два першыя месяцы бягучага года яна скарацілася на 60,4 % адносна паказчыку за адпаведны перыяд мінулага года. З 100 машын, рэалізаваных гандлем, доля айчынных склала 6,2%. Спіс можна працягнуць.

**Сяргей Нікалюк**

ГАНДАЛЬ

# «ЕЎРАОПТ» ГАТОВЫ КАНКУРАВАЦЬ З СПАЖЫЎКААПЕРАЦЫЯЙ

**Гандлёвая сетка «Еўраопт» прапануе стварыць новую сістэму развазнога гандлю з 1000 аўтакрам, пры якой у кожную вёску па графіку штодня прыязджала б яе аўталаўка і аўталаўкі іншых уласнікаў.**

На думку кіраўніка сеткі, гэта дапаможа сельскім жыхарам атрымліваць больш свежых прадуктаў.

«Адзін дзень, напрыклад, - крама спажыўкааперацыі, у другі дзень - «Еўраопт», у трэці - яшчэ нейкі сеткі або індывідуальнага прадпрымальніка. Гэта створыць пэўную канкурэнцыю, якая пойдзе толькі на карысць вяскоўцам: кожны дзень у іх будзе аўталаўка, і кожны дзень яны змогуць купляць свежыя прадукты», - сказаў у інтэрв'ю БЕЛТА гендырэктар сеткі Андрэй Зубкоў.

Такім чынам Зубкоў прапануе вырашыць праблемы ў сферы сельскага гандлю, звязаныя, па яго словах, з недахопам кадраў, слабой тэхнічнай аснашчанасцю крам і нізкай абарачальнасцю тавараў, што адбіваецца на іх якасці і асартыменце. «Гандаль на сяле патрабуе перамены. Сельскі пакупнік не мае магчымасці набываць ні свежае мяса, ні астуджаную курыную разделку, няма добрага асартыменту садавіны і агародніны, не заўсёды ёсць свежае малако і хлеб ні ў аўтакраме, ні ў стацыянарнай сельскай краме», - адзначыў Зубкоў.

Ён распавёў, што свае паслугі райвыканкамам гандлёвая сетка ўжо прапаноўвала, але ім выдзелілі толькі 13 маршрутаў для працы аўтакрам «Еўраопта». На астатнія прапановы адказалі адмовай. «Фармулёўка адмовы вельмі простая: насельніцтва задавальняе мясцовы гандаль, мы не маем патрэбу ў паслугах «Еўраопта», аднак усе ведаюць, колькі праблем сёння ў гандлю ў вёсцы", - падкрэсліў Зубкоў. Ён дадаў, што на працягу года яго кампанія гатова арганізаваць 1000 аўтакрам па ўсёй краіне.

У адказ на прапановы «Еўраопта» аб развазной гандлі спажыўкаперацыя адказала месячнікам «Аўталаўка-2014». Пра гэта казаў старшыня Белспажыўкааперацыі Валерый Іваноў на нарадзе, што прайшло ў Гарадку.

Падкрэслівалася, што на Віцебшчыне самая вялікая сетка аўтакрам - 155. Але ці гатовыя яны канкураваць з іншымі ініцыятывамі развазной гандлю на вёсцы - вялікае пытанне.

Дзяржава ў асобе спажыўкааперацыі вельмі баіцца канкурэнцыі «Еўраопта» у развазным гандлі. Гэта было б выгадна сельскім спажыўцам. Але не выгадна функцыянерам спажыўкааперацыі.

**Л. Антонаў**

УКРАІНСКА-РАСІЙСКІ КАНФЛІКТ

# КІРАЎНІК ДЫВЕРСАНТАЎ — РАСІЙСКІ АФІЦЭР

**Служба бяспекі Украіны ўстанавіла асобу кіраўніка расійскай дыверсійнай групы, якая тэрарызуе мясцовае насельніцтва, захоплівае адміністрацыйныя будынкі, дэстабілізуе грамадска-палітычную сітуацыю ва ўсходніх абласцях Украіны.**

Ім аказаўся грамадзянін РФ, афіцэр спецназа ГРУ Генштаба Узброеных сіл Расіі Ігар Стралкоў.

Менавіта яго голас — на запісе тэлефоннай размовы з маскоўскім куратарам, апублікаваным у СМІ 14 красавіка, дзе ён дае справаздачу пра тэрор у Славянску і расстрэл аўтамабіля з украінскімі праваахоўнікамі.

У ходзе аператыўна-следчых дзеянняў затрыманыя раней супрацоўнікамі СБУ дыверсанты пазналі Стралкова як чалавека, што прыцягваў і ставіў задачы захопліваць адмінбудынкі ў Харкаве.

Устаноўлена, што ў пачатку сакавіка ён прыбыў на тэрыторыю Крыма і каардынаваў захоп расійскімі вайскоўцамі і прадстаўнікамі спецслужбаў РФ ваенных частак Узброеных Сіл Украіны, мясцовых органаў улады і кіравання аўтаноміі, выкраданне вайскоўцаў, актывістаў грамадскіх арганізацый і іншых грамадзян Украіны і замежнікаў, якія знаходзяцца ў Крыме.

Акрамя гэтага, Стралкоў вярбуе грамадзян Украіны для далейшага выкарыстання ў арганізацыі і правядзенні падрыўных акцый на тэрыторыі краіны.

Дыверсант асабіста даваў ўказанне грамадзянам Украіны «К» і «У» захапіць і ўтрымліваць будынак Харкаўскай абдзяржадміністрацыі, вайсковыя часці і падраздзяленні праваахоўных органаў з мэтай завалодання зброяй ў Луганскай вобласці.

**Unian.net**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# РАЗАМ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**У Мінгарвыканкам 25 красавіка была пададзеная заяўка на правядзенне Маршу Незалежнасці. Згодна з планам арганізатараў, 14 траўня ад 17.00 і да 17.30 запланаваны збор удзельнікаў на пляцоўцы каля Нацынальнай бібліятэкі, потым - шэсце па праезнай частцы праспекта Незалежнасці да плошчы Незалежнасці і правядзенне там ад 19.30 мітынгу.**

Сярод заяўнікаў мерапрыемства - першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Алесь Лагвінец, намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў, сябра грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазняк і адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Дзяніс Садоўскі.

«Мэта правядзення Маршу Незалежнасці - публічнае выказванне падтрымкі ідэі мацавання незалежнасці Беларусі і канстытуцыйнага палажэння пра нейтралітэт», - заявіў на прэс-канферэнцыі з нагоды падавання заяўкі Юрась Губарэвіч.

Па ягоных словах, сёння пытанне пагрозы незалежнасці Беларусі стаіць як ніколі востра, і беларускае грамадства павінна прадэманстраваць сваё адзінства ў справе абароны суверэнітэту краіны.

На думку Губарэвіча, можна разлічваць, што ў прапанаваным фармаце ў маршы возьмуць удзел у разы больш людзей, чымсьці звычайна пад час вулічных акцый у Мінску. «Улады ўжо доўгія гады не даюць прайсціся па цэнтры гораду», - нагадаў ён. І дадаў кансалідацыйны Марш Незалежнасці немагчыма праводзіць на задворках сталіцы.

Па словах Алеся Лагвінца, арганізатары чакаюць на маршы ўдзельнікаў не толькі пад бел-чырвона-белымі, але і дзяржаўнымі чырвона-зялёнымі. «Нашае грамадства - падзеленае. Важна прыйсці да нейкага мінімуму, на які ўсе згодныя», - падкрэсліў Лагвінец, дадаўшы, што трэба рабіць крокі насустрач, і апазіцыя гэта робіць.

«Дата 14 траўня абраная невыпадкова, - падкрэсліў Ігар Лялькоў. - 19 год таму, у 1995 годзе, адбыўся рэферэндум, які замацаваў падзел на «чэсных і нячэсных», «свядомых і несвядомых», бел-чырвона-белых і чырвона-зялёных. Мы хочам пакласці канец такому падзелу. У сітуацыі, калі існуе пагроза незалежнасці, усё грамадства павінна бараніць яе».

Па ягоных словах, арганізатары хочуць даць «уладзе шанец разам з намі прадэманстраваць прыхільнасць да гэтай святой для кожнага беларуса справы».

Арганізатары падкрэслілі: тое, што Марш Незалежнасці мусіць прайсці пад час правядзення ў Мінску чэмпіянату свету па хакеі, дасць дадатковую магчымасць паказаць замежным заўзятарам, як у Беларусі развіваюцца падзеі, наколькі падтрыманая ідэя абароны незалежнасці, у тым ліку пад чырвона-зялёнымі сцягамі.

ПАСЛАННЕ

# ПРАЗ 20 ГАДОЎ НАРЭШЦЕ ДАЙШЛО

**«Калі мы страцім рускую мову — пазбавімся розуму, а калі развучымся гаварыць на беларускай — то перастанем быць нацыяй», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў час паслання беларускаму народу і Нацыянальнага сходу.**

Лукашэнка разам з тым заклікаў не блытаць беларусаў з рускімі — гэта асобныя народы:

— Мы не прарасійскія, не праукраінскія і не прапольскія. Мы не рускія, мы — беларускія. Нашая краіна — Белая Русь, краіна, дзе жывуць і рускія, і ўкраінцы, літоўцы, палякі, яўрэі, татары і шмат іншых. Гэта дзеці Белай Русі, грамадзяне адной краіны.

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў лічыць, што трэба выказаць падзяку прэзідэнту Расіі, што беларускі кіраўнік урэшце зразумеў важнасць захавання беларускай мовы ў краіне:

— Гэта добра, што праз 20 гадоў да Лукашэнкі дайшло. Вялікі дзякуй Уладзіміру Пуціну! Зараз ужо сталі крычаць, што тут рускамоўныя пацсяне Лукашэнка, не дае ім развярнуцца, не дае магчымасці на "истинно российском наречии" гаварыць. Яны ж гэта пішуць, пачытайце на іхных паганых сайтах. Ім патрэбная наша тэрыторыя. Ім жа трэба, каб іхныя атамныя ракеты пад Берасцем стаялі, вось і ўсё.

Паводле кіраўніка Беларусі, сёння з'явіліся «дзіўныя развагі пра тое, што ў нас нібыта пачынаюць зацiскаць рускую мову». У сувязі з гэтым Лукашэнка заявіў, што «няма ніводнай краіны ў свеце, дзе б так беражліва ставіліся да вялікай рускай мовы і вялікай рускай культуры».

**Беларускае Радыё Рацыя**




АДУКАЦЫЯ

# «ОВЦЫ — ЭТО ВАМ НЕ СВИНЬИ»

**Почему в «сильной и процветающей» Беларуси школы вынуждены разводить овец и свиней. Районная газета Витебщины опубликовала показательную историю одной из сельских школ.**

Александр Лукашенко считает учителей надежной опорой государства. Именно так он называет педагогов в последние годы, поздравляя их с Днем знаний и профессиональным праздником. А государство, по его уверениям, «делает все возможное для усиления социальной защищенности педагогических работников и повышения престижа их труда».

Открывая в 2011 году реконструированную школу в Острошицком Городке, Лукашенко заметил, что теперь эта сельская школа ни в чем не уступает городским новостройкам.

— И таких школ у нас тысячи. Здесь вы можете получать качественное образование и всерьез заниматься спортом, расти в мире красоты, игры и творчества, — заявил он. О том, как на самом деле живут некоторые из этих тысяч школ, в одном из последних номеров написала шумилинская районная газета "Герой працы". И хоть тон статьи под говорящим заголовком «Овцы — это вам не свиньи» скорее оптимистичный, первое же предложение звучит, как приговор: «Сегодня любое учреждение образования не может позволить себе заниматься исключительно образованием и воспитанием детей. Это, конечно, в том случае, если хочет уверенно стоять на ногах, быть материально независимой, а значит — свободной в своих планах и решениях».

Как следует из материала, для того, чтобы «уверенно стоять на ногах», Обольская школа занялась свиноводством, но в бизнес вмешалась чума.

«Учителям приходится конкурировать на рынке товаров и услуг на общих условиях, учиться предвидеть, планировать работу так, чтобы не обанкротиться. Случаются и просчеты. Вот, скажем, делали в Обольской школе ставку на выращивание свиней (казалось, беспроигрышную), а выходит, — просчитались. Но кто мог предсказать эту чуму, лихо ее бери?»

Долго по этому поводу обольские педагоги не переживали, утверждает автор, и занялись овцеводством. И не просто взялись за дело, а с мечтой выйти с поставками баранины в рестораны области. «Конкурентов в этом деле у обольских учителей пока нет», — пишет «Герой працы».

Кроме того, школа успешно продает на рынках березовый сок, а в этом году собирается освоить выращивание овощей.

«Хороший бизнесмен знает, как важно ухватить время. Поэтому сейчас все свободные силы аккумулированы в школьных теплицах: выращивают на продажу зелень. (…) К слову можно сказать и о пошиве постельного белья. За пробную партию товара они уже выручили несколько миллионов.

Наверное, есть смысл продолжать эту работу, искать свое место на рынке» — слова «бизнес» и «рынок» в статье звучат гораздо чаще, чем «учитель», «уроки» и «учеба». Впрочем, собственно о школе как об учебном заведении, вспоминается в конце статьи. Благодаря усилиям местного спонсора здесь организовали локальную компьютерную сеть, которая не имеет особого смысла из-за устаревших школьных компьютеров. Заменить их самостоятельно школа не сможет, а поэтому вся надежда на районную власть, — резюмирует автор статьи.

20 лет назад кандидат в президенты Александр Лукашенко обещал в своей предвыборной программе «отвести государство и народ от пропасти». Что у него получилось, и в каком месте по отношению к этой самой пропасти мы находимся спустя два десятилетия бессменного правления Лукашенко, можно судить и по статье в шумилинской районке.

В то время, как в Обольской школе развивают натуральное хозяйство, чтобы купить компьютеры, а в Минске открывают первую «электронную» школу, что и для нашей столицы в диковинку, к примеру, в Эстонии школы повсеместно оснащаются компьютерами и ноутбуками в рамках госпрограммы. К безлимитному и скоростному Wi-Fi в эстонской школе все давно привыкли. И для этого не нужно растить овец и шить пододеяльники.

**Кирилл Иванов**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 29.04.2014 у 20.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.